Веснік ПРАВААБАРОНЧЫ

№ 1 (21) 01.2014

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

**БРЭСЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ НА 3042 ВЫБАРЧЫЯ АКРУГІ**




Ў ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫЯ КАМІСІІ ПАДАДЗЕНА 2085 ЗАЯЎ

СТАР. 2

**ВІКТАР СЫРЫЦА ПА СПРАВЕ МІЛАВІДСКАГА ФЭСТУ**

НАКІРАВАЎ СКАРГУ Ў ВЯРХОЎНЫ СУД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



СТАР. 3

ВЫБАРЫ

# СПРАВАЗДАЧА ПА ВЫНІКАХ НАЗІРАННЯ ЗА ФАРМІРАВАННЕМ АКРУГОВЫХ ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЙ

Назіранне ажыццяўляецца актывістамі РПГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт» і ПЦ «Вясна» ў межах кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары»[1]




У назіранні ўдзельнічаюць 29 доўгатэрміновых назіральнікаў кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары»

## АГУЛЬНЫЯ ВЫСНОВЫ

Акруговыя выбарчыя камісіі па выбарах дэпутатаў абласных і Мінскага гарадскога Саветаў дэпутатаў (далей – АВК) з'яўляюцца важным суб'ектам выбарчага працэсу. Да паўнамоцтваў АВК аднесены, у прыватнасці, арганізацыя правядзення выбараў, кіраўніцтва дзейнасцю ўчастковых выбарчых камісій, рэгістрацыя ініцыятыўных груп грамадзян па зборы подпісаў выбаршчыкаў у падтрымку асоб, прапанаваных для вылучэння кандыдатамі ў дэпутаты, і правядзенне агітацыі за іх абранне, рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты і іх давераных асоб, кантроль складання спісаў грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах, разгляд заяў і скаргаў на рашэнні і дзеянні ўчастковых выбарчых камісій.

Выбарчае заканадаўства не забяспечвае празрыстасці працэсу фарміравання АВК. У 43% выпадкаў прадстаўнікам кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» было адмоўлена ў праве прысутнічаць з мэтай маніторынгу на пасяджэннях органаў, якія фарміравалі АВК.

Інфармацыя пра месца і час пасяджэння органаў, якія фарміруюць АВК, падавалася абмежавана. Зафіксаваны выпадкі адмовы ў прадастаўленні гэтай інфармацыі назіральнікам кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары».

Адсутнасць заканадаўча замацаваных крытэрыяў уключэння грамадзян у АВК, прыводзіць да фармальнага і адвольнага вызначэння іх складу адпаведнымі органамі, а таксама робіць неэфектыўным абскарджанне ў судзе адмовы ва ўключэнні ў выбарчыя камісіі.

Прыняцце рашэнняў аб складзе АВК у пераважнай большасці выпадкаў адбывалася шляхам спісачнага галасавання, без адкрытага абмеркавання вылучаных кандыдатур.

Нягледзячы на высокую актыўнасць апазіцыйных палітычных партый па вылучэнні сваіх прадстаўнікоў (185 чалавек ці 36,7 % ад усіх вылучэнцаў палітычных партый), у склад АВК з іх увайшло толькі 11 чалавек (5,95 % ад вылучаных). Доля прадстаўнікоў апазіцыйных партый у складзе створаных камісій склала 0,25 %(ад членаў АВК).

Вынікі фарміравання АВК сведчаць аб відавочна дыскрымінацыйных падыходах. Для параўнання: падчас парламенцкіх выбараў 2008 г. у склад АВК было ўключана 32% ад вылучаных апазіцыйнымі партыямі, у 2012 г. – 24%.

[1] РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт»: http://belhelcom.org/docs; ПЦ «Вясна»: http://spring96.org/.

spring96.org

## У Баранавічах мясцовая ўлада хоча жыць без грамадскага кантролю

Баранавіцкі гарвыканкам забараніў прафсаюзнаму актывісту Рыгору Грыку правесці 26 студзеня пікет "Дзеянні ўлады і законы РБ – пад грамадзянскі кантроль".

– У Баранавічах актыўныя грамадзяне неаднаразова збіралі подпісы жыхароў горада супраць росту коштаў на жыццё і паслугі, гандлю неякаснымі спіртнымі напоямі, за павышэнне заробкаў і пенсій, добраўпарадкаванне гарадскіх паркаў і дарог, за змены выбарчага заканадаўства і г.д. Аднак чыноўнікі не спяшаюцца выконваць пажаданні людзей. Таму сваім пікетам я хацеў звярнуць увагу, што чыноўнікі горада недастаткова і несваечасова рэагуюць на звароты і прапановы людзей. Але мне чарговы раз незаконна забаранілі правядзенне пікета, нягледзячы на тое, што я не толькі заключыў дамовы з палiклiнiкай, ЖКГ і міліцыяй, але і выканаў усе патрабаванні закону аб масавых мерапрыемствах, – паведаміў Рыгор Грык.

Аб забароне пікета актывісту стала вядома не з адказу гарвыканкама, які Рыгор Грык так і не атрымаў нават да 26 студзеня, а пасля размовы з намеснікам начальніка аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі ГАУС маёрам Паўлам Кульгавікам.

Рыгор Грык мае намер скардзіцца на незаконныя дзеянні гарвыканкама ў Баранавіцкую міжраённую пракуратуру.

Вітусь Свабодскі

## Прафсаюзны актывіст скардзіцца пракурору на незаконныя дзеянні гарвыканкама



Прафсаюзны актывіст Рыгор Грык у аўторак 28 студзеня падаў скаргу ў Баранавіцкую міжраённую пракуратуру на незаконныя дзеянні гарвыканкама па забароне запланаванага пікету пад лозунгам "Дзеянні ўлады і законы РБ – пад грамадзянскі кантроль".

Грамадскі актывіст адзначае, што ён заключыў пісьмовыя дамовы з паліклінікай, ЖКГ і міліцыяй, выканаў усе патрабаванні закону аб масавых мерапрыемствах.

– У скарзе я адзначыў, што Баранавіцкі гарвыканкам парушыў арт. 6 Закона "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь". Я не атрымаў адказу на сваю заяву не толькі за 5 дзён да даты правядзення запланаванага пікета, як гэтага патрабуе закон, але і на момант правядзення пікета, – паведаміў прафсаюзны актывіст Рыгор Грык.

Грамадскі актывіст просіць пракурора правесці праверку па дадзенаму факту і прыняць меры пракурорскага рэагавання да адказнах супрацоўнікаў гарвыканкама, якія парушылі патрабаванне арт. 6 Закона "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь".

Вітусь Свабодскі

# НА БРЭСТЧЫНЕ БОЛЬШАСЦЬ ІНІЦЫЯТЫЎНЫХ ГРУП СТВОРАНЫ ДЛЯ ВЫЛУЧЭННЯ НА ВЫБАРЫ Ў ГАРАДСКІЯ САВЕТЫ ДЭПУТАТАЎ




Паводле афіцыйных дадзеных, на 3042 выбарчыя акругі, што створаны на выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў усіх узроўняў, у тэрытарыяльныя камісіі Брэсцкай вобласці пададзена 2085 заяў ад ініцыятыўных груп.

Як паведаміў сябра абласной выбарчай камісіі, начальнік галоўнага ўпраўлення арганізацыйна -кадравай працы Брэсцкага аблвыканкама Аляксандр Каляда, больш за ўсё дакументаў ад ініцыятыўных груп грамадзян паступіла ў гарадах абласнога падпарадкавання - Брэсце, Баранавічах і Пінску (там на 108 акругаў пададзена 131 заява). Сярод тых, хто падаў заявы на вылучэнне кандыдатамі ў дэпутаты шляхам збору подпісаў 56 чалавек з'яўляюцца членамі палітычных партый. Сярод іх 32 асобы прадстаўляюць Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю (Грамада), дзесяць - Аб'яднаную грамадзянскую партыю, пяць - Камуністычную партыю Беларусі, па чатыры прэтэндэнты - Беларускую партыю левых "Справядлівы свет" і Партыю БНФ, адзін - партыю "Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада". У асноўным партыйныя вылучэнцы спрабуюць сабраць подпісы і зарэгістравацца ў якасці кандыдатаў у дэпутаты гарадскіх саветаў на тэрыторыі вобласці.

Аляксандр Каляда таксама адзначыў, што звычайна ініцыятыўныя групы ў пераважнай большасці рэгіструюцца мясцовымі выбаркамамі, і пакуль яму вядомы толькі адзіны выпадак адмовы ў рэгістрацыі: ён тычыцца ініцыятыўнай групы, якая няправільна падрыхтавала дакументы для передачы на разгляд Брэсцкай гарадской тэрытарыяльнай камісіі.

«Праваабаронцы за свабодныя выбары»
spring96.org

# У БАРАНАВІЧАХ 35 ІНІЦЫЯТЫЎНЫХ ГРУП НА 36 АКРУГАЎ

У малой зале гарвыканкама 19 студзеня адбылося чарговае пасяджэнне Баранавіцкай гарадской выбарчай камісіі па выбарах дэпутатаў гарсавета. Камісія прыняла рашэнне аб рэгістрацыі яшчэ 29 ініцыятыўных груп па збору подпісаў выбаршчыкаў у падтрымку вылучэння кандыдатаў у дэпутаты Баранавіцкага гарсавета.

Прэтэндэнтамі ў кандыдаты па Баранавіцкай выбарчай акрузе № 20 сталі мясцовы прадпрымальнік Зміцер Аўгуст і супрацоўнік гарадскога аўтобуснага парка Сяргей Дубешка. Былы кіраўнік справамі гарвыканкама Эдуард Якімчык стаў прэтэндэнтам ў кандыдаты па Баранавіцкай выбарчай акрузе № 17. Начальнік гарадской міліцыі Вячаслаў Герасімовіч зарэгістраваны прэтэндэнтам у кандыдаты па выбарчай акрузе № 5.

ТВК зарэгістравала таксама ініцыятыўную групу па збору подпісаў за прэтэндэнта ў кандыдаты ў дэпутаты гарсавета па выбарчай акрузе № 35, сябра Партыі БНФ Мікалая Чарнавуса.

Нагадаем, што 14 студзеня Баранавіцкая ТВК ўжо зарэгістравала 6 ініцыятыўных груп па збору подпісаў за кандыдатаў у дэпутаты. Такім чынам, у Баранавічах ужо зарэгістраваны 35 ініцыятыўных груп. Усяго на мясцовых выбарах 23 сакавіка павінна быць абрана 36 дэпутатаў Баранавіцкага гарадскога Савета дэпутатаў.

"Праваабаронцы за свабодныя выбары"
spring96.org

СУД

# СКАРГА ПА СПРАВЕ МІЛАВІДСКАГА ФЭСТУ НАКІРАВАНА Ў ВЯРХОЎНЫ СУД

Грамадскі актывіст Віктар Сырыца 13 студзеня падаў скаргу ў Вярхоўны суд на пастанову суддзі суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы Кацярыны Груда і пастанову суддзі Брэсцкага абласнога суда Наталлі Сурмы па справе Мілавідскага фэсту.

Нагадаем, што суддзя Кацярыны Груда 31 ліпеня 2013г. прызнала Віктара Сырыцу вінаватым у парушэнні ч. 2 арт. 23.34 КаАП і прыцягнула яго да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 20 базавых велічынь за падрыхтоўку і арганізацыю несанкцыянаванага мітынгу ў Мілавідах 2 чэрвеня гэтага ж года. Суддзя Брэсцкага абласнога суда Наталля Сурма пакінула пастанову суда першай інстанцыі без змянення. Старшыня Брэсцкага абласнога суда Тамара Сучок таксама не задаволіла скаргу грамадскага актывіста, пададзеную ў парадку нагляду. Пасля гэтага Віктар Сырыца, каб дабіцца праўды і аб'ектыўнага разбіральніцтва, звярнуўся ў Вярхоўны суд.



У сваёй скарзе грамадскі актывіст адзначае, што лічыць вынесеныя пастановы незаконнымі па прычыне аднабокага і неаб'ектыўнага высвятлення акалічнасцяў адміністрацыйнага правапарушэння. Ён даводзіць, што ніякага несанкцыянаванага масавага мерапрыемства не было 2 чэрвеня ля Мілавідскіх помнікаў. А што ён зрабіў, дык гэта арганізаваў паездку людзей на афіцыйнае свята, анансаванае дзяржаўнай газетай "Наш край".

Віктар Сырыца адзначае, што суды зусім не прымаюць да ўвагі і нідзе не згадваюць Акт ад 2 чэрвеня, падпісаны 9 грамадзянамі, а таксама пісьмовыя тлумачэнні Уладзіміра Гундара, Рыгора Макарэвіча, Вячаслава Болбата, Галіны Ярашэвіч, Сяргея Гоўшы, Анжалікі Камбалавай. Усе яны былі ўдзельнікамі вандроўкі на афіцыйнае свята ў Мілавіды 2 чэрвеня і жадалі даць паказанні ў судзе. Тое, што ў Мілавідах не было мітынгу, сведчыць і пісьмовае даручэнне пракурора Баранавіцкаму РАУС, якое суд таксама праігнараваў. Пракурор абавязаў РАУС правесці дазнанне факта правядзення культурніцкага фэсту 2 чэрвеня ў вёсцы Русіно Баранавіцкага раёна. Замест аб'ектыўнага разгляду Русінаўскага мерапрыемства, РАУС склаў на Віктара Сырыцу 3 адміністрацыйныя пратаколы за арганізацыю і правядзенне несанкцыянаванага "мітынгу" у Мілавідах.

Віктар Сырыца просіць Вярхоўны Суд адмяніць пастанову суддзі суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы ад 31 ліпеня 2013г. і пастанову суддзі Брэсцкага абласнога суда ад 29 жніўня 2013 г., а справу аб адміністрацыйным правапарушэнні спыніць з-за адсутнасцю складу адміністрацыйнага правапарушэння.

Глеб Лушынскі

СВАБОДА МІРНЫХ СХОДАЎ

# СУПРАЦОЎНІК МІЛІЦЫІ ЎЗЯЎ ТЛУМАЧЭННЕ Ў МІКАЛАЯ ЧАРНАВУСА АДНОСНА ПІКЕТУ СУПРАЦЬ КАРУПЦЫІ

Да індывідуальнага прадпрымальніка і актывіста Мікалая Чарнавуса, які працуе на Цэнтральным каапрынку, завітаў участковы міліцыянер. Супрацоўнік міліцыі ўзяў тлумачэнне ў грамадскага актывіста наконт несанкцыянаванага пікету супраць карупцыі, які прайшоў у гарадскім парку 26 снежня. У гэтым адзіночным пікеце арганізатар у адзенні Дзеда Мароза трымаў у руках плакат "Старшыні Дзічкоўскі, Язубец – непатапляемыя. Старшыня аблвыканкама Сумар абмануў Прэзідэнта. Карупцыянер у парламенце. Ганьба!!!"

Мікалай Чарнавус адмаўляе свой удзел у пікеце і ўпэўнены, што да суда справа не дойдзе, бо мясцовыя чыноўнікі не зацікаўлены ў раздуванні карупцыйнага скандала, у якім замешаны першыя асобы горада і раёна.

У Баранавічах ходзяць размовы, што старшыня гарвыканкама Віктар Дзічкоўскі і райвыканкама Мікалай Язубец былі замешаны ў растраце бюджэтных грошай на адпачынкі ў Эміратах і ў іншых карупцыйных справах. Але да крымінальнай адказнасці не былі прыцягнуты. Віктар Дзічкоўскі стаў дырэктарам завода жалезабетонных канструкцый, а Мікалай Язубец – дэпутатам Палаты прадстаўнікоў.

Вітусь Свабодскі

## Пікет супраць размяшчэння расійскай авіябазы забаронены

Грамадская актывістка Анжаліка Камбалава 28 снежня атрымала заказны ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Дз. Касцюкевіча, у якім паведамляецца, што ўлада не дае згоды на правядзенне пікета 30 снежня супраць размяшчэння расійскай авіябазы ў Баранавічах. Чыноўнік лічыць, што заяўніца парушыла п. 4 рашэння гарвыканкама ад 16.06.2009г. № 1497 "Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Баранавічы" і не заключыла дамовы з жыллёва-камунальнай гаспадаркай, паліклінікай і міліцыяй.

– У заяве я напісала, што паколькі ў пікеце прыме ўдзел усяго 1 чалавек, то абавязкі па забеспячэнні грамадскага парадку падчас мерапрыемства, прыборкі тэрыторыі пасля пікету бяру на сябе. Таксама я паведаміла, што буду мець медычную аптэчку для аказання першай медыцынскай дапамогі. Але гарвыканкам, магчыма, палічыў такі падыход да справы парушэннем свайго рашэння. Чыноўнікі ад нас патрабуюць, каб мы, замест стваральнай і карыснай працы для людзей займаліся марнаваннем часу, – адзначыла Анжаліка Камбалава.

Нагадаем, што 8 снежня бягучага года з аэрадрома Бесавец з-пад Петразаводска ў Баранавічы перабазіравалася авіяцыйнае звяно ў колькасці 4-х знішчальнікаў Су-27П і 2 ваенна-транспартных самалёта з інжынерна-тэхнічным складам і неабходным абсталяваннем.

spring96.org

## Суд пакінуў у сіле вырак Васілю Парфянкову

У Мінскім гарадскім судзе адбыўся разгляд касацыйнай скаргі па справе палітвязня Васіля Парфянкова. Прысуд суда Першамайскага раёна пакінуты без зменаў, а скарга без задавальнення.

29 мая 2012 г. судом Першамайскага раёна г. Мінска Васіль Парфянкоў быў асуджаны на 6 месяцаў арышту па арт. 421 КК Рэспублікі Беларусь (за парушэнні ўмоваў прафілактычнага нагляду, устаноўленага судом).

5 снежня 2013 г. суд Першамайскага р-на г. Мінска паўторна асудзіў Васіля Парфянкова па арт. 421 КК Рэспублікі Беларусь на адзін год пазбаўлення волі з адбыцём пакарання ва ўмовах калоніі строгага рэжыму.

Зараз Васіль Парфянкоў знаходзіцца ў жодзінскім СІЗА, адкуль, паводле папярэдніх звестак, яго збіраюцца перавезці ў калонію ў Горках.

Праваабаронцы цэнтр "Вясна"і РГА БХК расцэньваюць асуджэнне грамадскага актывіста Васіля Парфянкова да пазбаўлення волі за парушэнне прывентыўнага нагляду як палітычна матываваны пераслед.

* * *

Прысуд суда Першамайскага раёна пакінуты без зменаў, а скарга без задавальнення.

У ходзе сённяшняга судовага паседжання адвакат Парфянкова заявіла, што рашэнне суда Першамайскага раёна ад 5 снежня з'яўляецца неабгрунтаваным, паколькі, ён быў вынесены за актыўную грамадзянскую пазіцыю, а ў аснову судовага рашэння былі пакладзены толькі паказаньні сьведак - супрацоўнікаў міліцыі.

Адвакат таксама заяўляла хадайніцтва аб правядзенні наркалагічнай экспертызы, паколькі, на думку Парфянкова, папярэдняе амбулаторнае абследаванне было праведзена «чыста фармальна».

spring96.org

ПАЛІТВЯЗЬНІ

# ВІКТАР СТАТКЕВІЧ: ЧАЦВЁРТЫ ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ БЕЗ СЫНА



Баранавіцкія праваабаронцы і грамадскія актывісты 19 студзеня наведалі Статкевіча Віктара Паўлавіча – бацьку экс-кандыдата ў прэзідэнты, палітвязня Міколы Статкевіча, каб павіншаваць яго з 87-мі годдзем з дня народзінаў. Статкевіч-старэйшы заўсёды гасцінна сустракае гасцей і вельмі рады такім сустрэчам.

Па словах грамадскага актывіста Віктара Сырыцы, Статкевіч-старэйшы чацвёрты год запар адзначае свой дзень народзінаў без сына Мікалая і параней шаму вельмі перажывае за яго, не верыць у датэрміновае яго вызваленне. Віктар Паўлавіч паказаў гасцям віншавальныя паштоўкі ў свой адрас і лісты, якія атрымаў ад Мікалая напярэдадні і пасля Новага 2014 года. Гаварылі таксама пра лёс іншых палітзняволеных краіны, Майдан, грамадска-палітычнае жыццё, чыталі навагоднія адказы і віншаванні Мікалая Статкевіча, Алеся Бяляцкага, Мікалая Аўтуховіча і інш. ў адрас баранавіцкіх аднадумцаў і сяброў.

– На развітанне мы падаравалі Віктару Паўлавічу кнігу Вадзіма Дзеружынскага "Міфы аб Беларусі". Усе наведвальнікі выказалі Статкевічу-старэйшаму словы падтрымкі і падзякавалі за тое, што ён выгадаваў сапраўды мужнага барацьбіта за свабоду беларусаў, – паведаміў Віктар Сырыца.

Кандыдат у прэзідэнты на мінулых выбарах Мікалай Статкевіч асуджаны па абвінавачанні ў арганізацыі масавых беспарадкаў на 6 гадоў пазбаўлення волі за дэманстрацыю пратэсту супраць фальсіфікацыі прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 года.

Вітусь Свабодскі

СУД

# «БЕЛСАТ» ПЕРАМОГ У СУДЗЕ

Вярхоўны суд не задаволіў патрабаванняў спадара Белякова, уласніка фірмы «БЕЛСАТплюс». Бізнесоўца дамагаўся забароны на выкарыстанне таварнага знаку «Белсат ТВ» («Belsat TV») польскім тэлеканалам.

Калегія інтэлектуальнай уласнасці Вярхоўнага суда адкінула патрабаванні спадара Белякова, палічыўшы іх неабгрунтаванымі. «Тыя аргументы, доказы, што пазоўнік прадставіў у судзе, не адпавядалі фармальным патрабаванням, таму суд прыняў такое рашэнне, – зазначае афіцыйны прадстаўнік «Белсату» ў Беларусі Міхась Янчук. – Гэтае рашэнне можа быць яшчэ абскарджанае ў парадку нагляду цягам трох гадоў. Але што для нас важна – паводле беларускага заканадаўства такая ж самая справа з такімі ж самымі бакамі больш не можа разглядацца ў беларускім судзе. Гэта значыць, што спадар Белякоў не зможа падаць супраць нас такі самы пазоў другі раз».

Фірма спадара Белякова пад назваю «БЕЛСАТплюс» займаецца продажам абсталявання для прыёму спадарожнікавага і кабельнага тэлебачання ды радыётэхнічнага абсталявання. Першапачатковым патрабаваннем спадара Белякова з фірмы «БЕЛСАТплюс» было прыпыніць трансмісію сігналу тэлебачання «Белсат» апаратарамі спадарожніка «Astra». Аднак пасля першага паседжання пазоўнік змяніў патрабаванні і жадае толькі прыпынення выкарыстання таварнага знаку «Белсат ТВ» («Belsat TV»).

Паводле заканадаўства, нельга блакаваць таварны знак, калі яго выкарыстоўваюць у іншай галіне (трансляцыя і прадукцыя тэлевізійных праграмаў). Фірма «БЕЛСАТплюс» не ажыццяўляе тэлевізійнай трансляцыі.

Тэлеканал зарэгістраваны ў Польшчы, таксама, як і дамен сайту. Даменнае імя не зарэгістраванае ў Беларусі і не адмініструецца, а тэлебачанне не транслюецца з тэрыторыі Беларусі. Адпаведна, і таварны знак не падпадае пад юрысдыкцыю беларускага права.

spring96.org

"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК" Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў